

# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №16 (109)
СНЕЖАНЬ 2011 ГОДА

**"Покліч волі" ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## НАШЧАДКІ ВЛКСМ У СЁННЯШНЯЙ РЭАЛЬНАСЦІ

**У Менскім Палацы спорту прайшоў 41-ы з'езд БРСМ. Па афіцыйных дадзеных, у БРСМ налічваецца каля 500 тысячаў чалавек. Аднак плёну ад папяровага членства няшмат. Саюз пастаянна трапляе ў анекдатычныя сітуацыі. У Гомелі, напрыклад, у прабегу, абвешчаным БРСМ, прынялі ўдзел ажно два чалавекі. А ў Дзяржынску, кіраўніка мясцовай арганізацыі выканкаму давялося шукаць праз аб'явы ў газетах. Нялішнім будзе згадаць і пра тое, што Лукашэнка, апавядаючы аб раскрыцці тэракту ў сталічным метро, канстатаваў: сярод затрыманых па справе апынуўся сябра БРСМ.**

Аднак не гледзячы на ўсе гэтыя дробныя акалічнасці кіраўнік існае дзяржавы наведаў чарговы з'езд саюза, на якім падобных ляпаў было не менш, чым у самім жыцці.

Так, студэнтка Акадэміі кіравання пры прэзідэнце РБ Алена Сарока, ўручаючы сімвалічны пашпарт Беларусі таварышу Лукашэнку, паскардзілася на «падкопы ворагаў»:

- Нашыя патрыятычныя пачуцці падвяргаюцца пастаяннаму націску, нам навязваюць чужыя жыццёвыя стандарты, інтарэсы чалавека-спажыўца, які за грошы, добрую вопратку, модны тэлефон ці проста ад гультайства і бяздзейнай цікаўнасці зможа, напрыклад, у чарговы раз выйсці на плошчу паплескаць, пабіць шкло.

Павесяліў і першы сакратар ЦК БРСМ Ігар Бузоўскі, які распавёў, што па дадзеных айтарытэтных рэйтынгавых даследнікаў, інтэрнэт-партал «Моладзь Беларусі» уваходзіць у дваццатку найбольш запатрабаваных рэсурсаў краіны. Каб праверыць дакладнасць гэтага сцвярджэння, досыць скарыстацца рэйтынгам беларускіх сайтаў «Акавіта».

Як высветлілася, «Моладзь Беларусі» знаходзіцца не ў першай дваццатцы, а ў чацвёртай сотні.

У сярэднім за дзень сайт наведваюць менш як 900 чалавек. Пацешна, але дэлегатаў на з'ездзе было каля 1000. Гэта значыць нават не кожны з іх штодня заходзіць на сайт уласнай арганізацыі. Не кажучы ўжо пра 500 тысяч шэрагоўых чальцоў...

БРСМ, які праводзіць мноства розных акцый, запусціў праект «100 ідэй для Беларусі» і арганізаваў выставу дасягненняў у фае Палаца спорту. Цікава, але сярод усіх ідэй вартымі ўвагі сталіся толькі «Разумная хата» Стаса Архіпенкі з БГУІР ды Аляксандр Кузмянкоў, які прывёз з Гомелю некалькі варыянтаў велапаркоўкі. Першы хлопец, праўда, пакуль з дапамогай эсэмэскі ўключае толькі электрычны імбрычак перад вяртаннем дахаты, але ў планах праз інтэрнэт кіраваць цэлай хатай ці нават заводам. А другі, безумоўна рэалізаваў самую " запатрабаваную" на сённяшні час для грамадства праблему. І гэта ацаніліі: " быццам бы ніякіх «наваротаў» , але дакладна, патрэбная рэч!» – занзначае карэспандэнт СБ. На ўсю Беларусь–цэлых дзве распрацоўкі! Найвялікшыя дасягненні для суверэннай дзяржавы.

Дзіўная рэч, банальшчына выдаецца за дасягненне. Іхнія раўналеткі ў дэмакратычных краінах у іхнім узросце робяць сапраўдныя навуковыя вынаходніцтвы, ствараюць палітычныя партыі, трапляюць у парламенты і муніцыпалітэты і насамрэч, а не ўяўна кіруюць сваімі краінамі, а не чакаюць ад дзяржавы чарговую падачку ці заклік рашаць тую ці іншую задачу. Бээрсэмаўцы ж гуляюць у дзіцячыя гульні і выдаюць гэта за сапраўднае жыццё!

Адзін з выступоўцаўстудэнтаў пахваліўся, што у будатрадзе зарабіў шэсць мільёнаў. І тут жа на з'ездзе кіраўнік дзяржавы дае даручэнне: стварыць ажно 10 тысячаў працоўных месцаў для будаўнічых атрадаў у кожнай вобласці. А гэта значыць, што ўжо ў наступным годзе такіх задаволеных будзе ці не 60 тысячаў маладых людзей! Не жыццё, а казка! Але ці верыце вы ў гэта?

"Усякая рэвалюцыя пачынаецца з выдатных словаў і заўсёды сканчаецца грандыёзным зманам. Так магло быць і ў нас. І тады замест волі мы атрымалі б хаос і кроў, а замест улады народа - уладу жулікаў і злодзеяў... Але ў моры хаосу толькі моцная ўлада можа кансалідаваць і ўтрымаць краіну, зрабіць нас усіх народам... Хто з вас скажа, што дзяржава павінна ганарыцца слабой уладай? Слабая ўлада ненадоўга», –заявіў у сваім выступе Лукашэнка.

Але ж, падсвядомасць выдае іх ва ўсёй паўнаце: калі ты моцная ўлада, ці будзеш ты гаварыць пра сваю моц!

Насамрэч, моцная тая ўлада, якая мае здольнасць дамаўляцца з усімі грамадскімі суб'ектамі і трымацца не за кошт дручкоў ды знішчэння сваіх палітычных апанентаў, а шляхам дыялогу і перамоваў. Бо ў адваротным выпадку праблемы нікуды не знікаюць, а толькі накапліваюцца і замінаюць руху наперад. І дзіўнае, што маладзёны, якія сабраліся на з'ед, гэтага не разумеюць.

Ад усяе ўбачанае па тэлевізіі імпрэзы патыхала цвіллю мінулага і сучасньй метадыкай замбавання. Замест таго, каб быць у маладосці бутаўнікамі, у добрым сэнсе гэтага слова, а ў сталасці кансерватарамі, як раіў Чэрчыль, яны адпачатку становяцца ўтрымканцамі і імітатарамі не здольнымі да актыўных грамадска – палітычных дзеянняў.

І як пераконваюць лічбы, адзінае, у чым акрамя ашуканства, мае поспех БРСМ, – гэта нахлебніцтва. Яшчэ да 2005 года Лукашэнка ставіў перад саюзам задачу перайсці на самаакупнасць. Але выдаткі дзяржаўнай казны на БРСМ толькі павялічваюцца:

2005 год - 5,2 млрд. рублёў (сумы акругленыя);
2006 год - 7,7 млрд. рублёў;
2007 год - 10,1 млрд. рублёў;
2008 год - 13,1 млрд. рублёў;
2009 год - 17,5 млрд. рублёў;
2010 год - 14,8 млрд. рублёў;
2011 год - 20,5 млрд. рублёў.

Ёсць выдатны спосаб высветліць, колькі ў БРСМ ідэйных членаў: для гэтага дастаткова проста спыніць фінансаванне саюза з дзяржбюджэту. І тады ўсё стане на свае месцы.

І яшчэ адзін яскравы прыклад: па багаслаўленні Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта Патрыяршага Экзарха усея Беларусі пратаіерэй айцец Георгій Кавуноў, стараўшы святар прыходу храма «Уваскрэсення Хрыстова» ўручыў грамадскаму аб'яднанню «БРСМ» харугву з абліччам Найсвяцейшай Багародзіцы (Святы царкоўны сцяг). Праваслаўная царква ганаруе нашчадкаў тых вээлкаэсэмаўцаў, якія некалі нішчылі іхнія храмы і забівалі іхніх святароў!

Вось такія метамарфозы творацца на нашай зямлі, вось такая тут алагічная і маразматычная рэальнасць.

**Рэдактар.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## "Школьнае жыццё настаўнікаў Віцебскага р-на".

**У блогах Віцебску наведнік пад нікам starikan 1984 змясціў топ "Школьная жизнь учителей Витебского р-на". Тэма закранула многіх, таму мы і вырашылі падаць ход гэтае дыскусіі і данесці яе да нашага чытача.**

Першы факт з якога абурaецца starikan1984, гэта тое, што спартыўная зала ў школе павінна працаваць да 21.00 і пры гэтым прыносіць прыбытак вызначаны РАА (аднакратнае наведванне каштуе 2500, а абанемент 30 000). Аплата, вядома, прымальная, калі б не пэўныя акалічнасці ў ягонай школе.

Акалічнасць першая: сярэдняя тэмпература ў памяшканні ад +2 да + 12 у залежнасці ад пары года.

Акалічнасць другая: на ўсю школу усяго 4 мячыка (1фут.,1вал.,2баск.), якімі карыстаюцца толькі на ўроках.

Акалічнасць трэцяя: трэнажорная зала, калі так можна пра яе казаць, складаецца з 2 штанг і адной лаўкі.

"Скажыце, ці шмат можна зарабіць пры такой забяспечанасці інвентаром?"– абураецца аўтар. Мала таго, суму, якая адсутнічае трэба здаць. І збіраюць яе з настаўнікаў, нічым не кампенсуючы.

Другі факт: пад час працы спартзалы павінен прысутнічаць дзяжурны настаўнік, які мусіць строга сочыць за працай спартзалы.

Гэты ж настаўнік запісвае ўсіх хто прыйшоў у гэты дзень з 16.00 – да 21.00 у спартзалу.

А зараз уявіце сабе адзін дзень з жыцця настаўніка школы ў той дзень , калі яму трэба дзяжурыць( 8.45 - 15.05 урокі, калі іх 7, далей які-небудзь гурток да 16.00 і на дэсерт «дзяжурства па спартзале» да 21.00). Калі настаўнік мясцовы, то ён будзе дома ў 21.30, а калі з горада, то сітуацыя такая: у 21.30 едзе апошні транспарт у бок горада. Едзе ён прыкладна 30-40 хвілін. І так атрымліваецца, што на вакзале ён у 22.00-22.10. Плюс да гэтага яму трэба дабрацца дахаты, скажам, у Білева, яшчэ плюс 40 -50 хвілін. Такім чынам у сям'ю гэты «герaічны» чалавек трапляе дзесьці ў 23.00.

І што самае цікавае – за ўсю гэту перапрацоўку ён атрымлівае адзін адгул, які зможа адгуляць толькі ў вакацыйны час. І ў дадатак: дзяжурства па спартзале можа трапіць на любы дзень года ( Новы год, 9 Траўня, Дзень Незалежнасці, 8 Марта).

Словаў разумення і падтрымкі размешчаных на сайце было нямала. Так наведніца пад нікам grethen піша: " Ты апісаў тое, што адбываецца вакол у нашай сістэме па ўсёй краіне. Я больш скажу. Няма куды пісаць. Гэтыя планы па " лавэ" прыходзяць з Менска. Уся Беларусь падпарадкавана ўзаконенаму рэкету. Вымагальніцтва грошай адбываецца з ведання дзяржавы. Цяпер раённыя школы, у якіх няма спажыўцоў платных паслуг (пляваць людзі жадалі, ды і грошай лішніх няма) працуюць па такой схеме: выпісваецца настаўніку прэмія, ён яе атрымлівае і тут жа аддае ў рахунак платных паслуг. Куды пісаць? У Гагу? Я бачу толькі адно выйсце, па якім іду я. Забіць. Усё больш і больш настаўнікаў на месцах перастаюць гуляць па гэтых правілах. Перастаюць падпісвацца на макулатуру, перастаюць аплачваць платныя паслугі. Далей школы не пашлюць. Не ў тваёй школе праўды няма, не ў дырэктара сумлення няма, ён залежны чалавек, напалоханы да істэрыкі. Сораму няма ў таго, хто ў жаху не ведае, дзе наскрэбці грошай, і адбірае ў слабых. У таго, хто баіцца чужога меркавання і ініцыятывы. У таго, хто спрабуе ўжо некалькі гадоў запалохваць людзей, таму што іншых рычагоў не засталося, акрамя страху.

Можаш дырэктару санстанцыяй прыстрашыць з нагоды тэмпературы ў спартзале, а наогул вучыся адмаўляць. Я вось стала на гэту слізкую сцяжынку, і так весела зараз. У нас чатырнаццацігадовых дзяцей заганяюць у тэатр на «Канька-Гарбунка». Класная аднаго з класаў распавядала, як дзеці сыходзілі: «Прыйшлі, чыпсы зжэрлі, пакаванне выкінулі, падняліся і сышлі». Так, яны хамаватыя, а сталыя, якія адпраўляюць разнарадку на дзіцячы спектакль для падлеткаў, хто яны? Ты не знікнеш. Цябе не пасадзяць у турму, і заўсёды можна з'ехаць. Але найхутчэй цябе пакінуць у супакоі, ці будзеш проста зарабляць меней."

Вось такая яна рэчаіснасць. Вось такія тут правілы гульні, такая тут улада, такія ў нас настаўнікі: альбо забітыя, альбо абыякавыя. Карацей людзі, як людзі, толькі выйсця не шукаюць, дзяцей высокаму не вучаць, а прыстасоўваюцца да рэчаіснасці, выжываюць. Але, якія тады ў іхніх вучняў і ў гэтай краіны перспектывы? Думаю, здагадаецеся самі.

**(Працяг будзе)**

**Якаў Дрозд.**

## АБ'ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Покліч волі ».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# НАМ БЫ ІХНІЯ ПРАБЛЕМЫ

**Сёлета ў філіяле «Зялёная Ніва» ААТ «Кераміка» паставілі задачу нарыхтаваць на ўмоўную галаву скаціны не меней 30 цэнтнераў кармавых адзінак. Стаўку зрабілі на шматгадовую траву і кукурузу. Прыбралі іх у спрыяльныя тэрміны. Каб не было выдаткаў, звязаных з дадатковай перавозкай, пажыўны корм заклалі ў сіласныя і сянажныя траншэі недалёка ад фермы. Палічылі кармавыя адзінкі: выйшла па 47 ц. на ўмоўную галаву.**

Паводле зімовага рацыёну, у суткі на галаву выдаюць па 18-20 кілаграмаў сіласа, па 15 - сянажу, па 4 - канцэнтратаў. Для бялковага ўзбагачэння кормаў у сховішча нарыхтавана 800 тон гарохава-аўсянай сумесі. Агульныя высілкамі па ферме атрымліваюць па 11 літраў малака ад каровы ў суткі.

Калектыў імкнецца атрымліваць малако класа «экстра». З ААТ «Малако» прыязджалі тэхнолагі, каб дапамагчы ва ўдасканаленні вытворчасці высокаякаснай прадукцыі. У 2010 г. яе рэалізавалі ў аб'ёме 22 тоны. Цяпер жа амаль увесь штодзённы валавы надой у 3,5-3,7 тоны адпраўляецца класам «экстра» на перапрацоўку.

Але як бы ні імкнуўся калектыў да новых вышыняў, без сваіх кваліфікаваных зоаветспецыялістаў не абыйсціся. А з кадрамі як раз бяда. Працяглы час застаецца вакантнай пасада галоўнага заатэхніка. «Не цягне» маладых ветспецыяліст. Але як развіваць тэхналогіі і кіраваць малочным працэсам без зоаветспецыялістаў? Кадравы голад відавочны, гаспадарцы, акрамя адмыслоўцаў жывёлагадоўлі, патрабуюцца таксама галоўны аграном, энергетык, бухгалтар…

Пасля рэфармавання «Зялёная Ніва» стала філіялам ААТ «Кераміка». Дзіўна, але ў людзей далёкіх ад сельскай гаспадаркі, чамусці атрымоўваецца лепей арганізаваць гаспадарку, чым ў тых, хто гэтаму вучыўся.

Наогул з усёй тутэйшай сельскай гаспадаркай творчаца нешта невытлумачальнае: здавалася б, мільярды даляраў укладзеных у яе павінны даваць нейкі плён, насамрэч жа змены найчасцей касметычныя, але ніяк не сутнасныя. І трагедыя якраз у тым, што не змяняецца галоўнае – селянін на зямлі не гаспадар, а парабак! І тыя 1 700 000 заробку для даяркі– гэта здзек над чалавекам і прыніжэнне прафесіі.

Сярэдняя амерыканская карова дае ў год 9053 літраў малака, у той час як ізраільская - аж 11292 літра. Малако ізраільскіх кароў літаральна па ўсіх паказчыках якасней, чым малако еўрапейскіх і амерыканскіх рагуль.

А справа ў тым, што фермы і малочныя камбінаты ўкладваюць велізарныя сродкі ў генетычныя даследаванні, накіраваныя на павелічэнне памераў вымя каровы. Праўда, паколькі ўвесь астатні арганізм жывёлы застаецца тым жа, ізраільскія каровы не вытрымліваюць уласнай вагі. З-за гэтага сярэдняя працягласць жыцця каровы скарацілася амаль удвая. Зараз генетыкі працуюць не толькі над павелічэннем вымя, але і над умацаваннем ног і іншых частак цела кароў. Так што неўзабаве на ізраільскіх фермах з'явяцца прынцыпова новыя пароды, якія даюць такія ж надоі, але з большай працягласцю жыцця.

І гэта далёка не ўвесь сакрэт поспеху. Ізраільскія навукоўцы зрабілі ўнікальнае адкрыццё: час, неабходны карове для таго, каб яна зноў «захацела» быка, наўпрост злучана з колькасцю зробленых ёй крокаў. На падставе гэтага быў створаны адмысловы прыбор, які прымацоўваецца да кожнай каровы і лічыць яе крокі. Як толькі каровай пройдзены вызначаны шлях, праводзіцца абнасеньванне.

Больш за тое, ад ізраільскіх кароў цялятаў адымаюць адразу, як толькі яны нараджаюцца, не даюць ім нават некалькі гадзінаў пабыць побач з мамай. Ні ў якім разе не дазваляюць ім дакранууцца да вымя маці.

Яшчэ адзін цікавы момант: аснова корму для кароў у Ізраіль імпартуецца і ўжо тут, на месцы, узбагачаецца адмысловымі дадаткамі для таго, каб зрабіць жывёлаў здаравейшымі і павялічыць надоі.

Мачыцца на зямлю рагулям строга забаронена – іхняя мача можа пратачыцца глыбока пад зямлю і забрудзіць падземныя водныя рэзервуары краіны. Таму пры буйных жывёлагадоўчых гаспадарках будуецца адмысловая дрэнажная сістэма, якая адводзіць мачу ў мачасховішча. Затым яна выкарыстоўваецца ў якасці сыравіны для падрыхтоўкі высокакаштоўных азотных угнаенняў.

Вось такія адрозненні: адны ўвесь час змагаюцца з цяжкасцямі, недахопам кадраў, кармоў, розуму, жадання працаваць, а другія проста ведаюць куды ісці і ідуць, робячы тое, што трэба і, што называецца сапраўдным чалавечым жыццём.

**Ян Сведка.**

НАША СПАДЧЫНА

# Скарбніца беларускай даўніны

**Памяць пра гісторыю, традыцыі сваёй краіны з'яўляецца вечнай каштоўнасцю чалавека. Галоўнае — захаваць гэты скарб для нашчадкаў. Таму другі год запар педагогі праводзяць конкурс "Духоўнае адраджэнне культурных традыцый і побыту беларускай даўніны".**

Прайшоў год з таго, як на прысуд журы былі вынесены макеты архітэктурных помнікаў VIII—XIX стагоддзяў пад адкрытым небам. Цяпер надышоў час другога этапа, калі ўстановам адукацыі прапанавалі адрадзіць адно з каляндарна-абрадавых свят. Распачалі з восеньскага цыкла, тым больш, што мерапрыемства прыпадала на свята працаўнікоў вёскі.

Пры ўваходзе ў Мазалаўскую школу, дзе праходзіў агляд-конкурс, гасцей і ўдзельнікаў сустракалі хлопчыкі і дзяўчынкі ў нацыянальных строях. Адны сардэчна запрашалі наведаць іх падвор'е, другія — з захапленнем расказвалі пра ўборы з бабулінага куфэрка.

Не парушаючы традыцый, перад пачаткам галоўнага дзейства гледачам было прапанавана абраць самы, на іх погляд, творчы калектыў і аддаць за яго свой голас — валошку. У межах першай намінацыі калектывы павінны былі выступіць з самапрадстаўленнем і прадэманстраваць нацыянальныя строі.

Камізэлькі, кашулі, сукенкі, спадніцы майстры гімназіі №1 вынеслі на глядацкі прысуд. Адзенне з беларускага шоўку з элементамі традыцыйных арнаментаў і ўзораў уразіла сваім хараством. А тых, у каго яшчэ няма такіх убораў, гімназісты запрасілі да сябе ў госці.

Як адзначылі прадстаўнікі Мазалаўскай школы, пасля мовы народнае адзенне — гэта адметная нацыянальная прыкмета. Таму да выбару касцюмаў падышлі з усёй адказнасцю. Курынскія мадэльеры таксама папрацавалі на славу.

Збіральніцы фальклору з Курынскага сада-школы прымусілі прысутных задумацца, што для нашых продкаў было модна ды стыльна. Адказ быў вераготны: у адрозненні ад сваіх прашчураў, мы выбіраем адзенне па меры яе камфортнасці, кіруючыся практычнымі мэтамі, і не надаём увагі колераколу. Раней жа колер і арнамент надзяляліся магічным значэннем і неслі глыбокі сэнс, пра які і распавялі на прыкладзе сваіх строяў запольскія канкурсанты. Госці з віцебскага прафесійна-тэхнічнага каледжа, удзельнікі аматарскага тэатра моды "Стыль" прадэманстравалі сваю калекцыю. Шчодра распісаныя нашымі бабулямі строі, і сёння выклікаюць замілаванне і добрую зайздрасць.

Але не толькі нацыянальнае адзенне цікавае для вывучэння. Свой мясцовы каларыт заўсёды мелі абрады. Пасля заканчэння сельскагаспадарчых работ надыходзіў самы спрыяльны час аддзячыць прыродзе за сабраны ўраджай. Першым пасля заканчэння жніва праводзілі абрад "Дажынкі". А як падзяку шчодрай ніве выказвалі руплівыя сейбіты ды жнейкі, прадэманстравалі вучні і настаўнікі гімназіі №1. Было ў беларусаў шмат цікавых святаў і прысвяткаў. Самым містычным з іх з'яўляецца "Багач". Нашы продкі "багачом" называлі кошык з зернем новага ўраджаю, у цэнтры якога ставілі свечку. Зерне для яго па жменьцы прыносілі з першага снапка кожнай гаспадаркі. Пасля божага блаславлення абыходзілі з "багачом" усе хаты. А як шчодра сустракалі яго ў кожнай з іх, прадэманстравалі гаспадары конкурсу. На дапамогу педагогам і юным артыстам прыйшоў ансамбль народнай песні і музыкі "Верасянка" мясцовага СДК.

Сапраўдную камедыйную трагедыю сваяцкіх узаемаадносін разыгралі напярэдадні Пакрова Прасвятой Багародзіцы курынскія Цешча і Зяць. Не абмінулі гэтую традыцыю ў сваім выступленні канкурсанты з Курынскага сада-школы.

Адно з самых вялікіх восеньскіх свят падштурхнула запольскіх настаўнікаў і вучняў правесці велізарную даследчую работу. Як некалі нашыя бабулі і дзядулі ў пакроўскі вечар садзіліся за шчодры стол на вячоркі, так і іхнія ўнукі сабраліся разам, каб паслухаць аповед пра паходжанне і традыцыі свята. За гутаркай не забывалі і пра госцейкаў, якіх нельга было адпусціць без пачастункаў.

Конкурс скончыўся ўганараваннем пераможцаў: за лепшае падвор'е была адзначана гімназія №1, дыплом за даследча-пошукавую работу па вывучэнні культурнай спадчыны атрымалі запольцы. Курынскія "народнікі" перамаглі ў намінацыі "Лепшае прадстаўленне абрада", а лепш за ўсіх прэзентавалі свой праект мазалаўчане.

ПАЛІТЫКА



# Паўтара мільёны штрафу за Народны сход у Віцебску

За арганізацыю Народнага сходу 8 кастрычніка Ірына Яскевіч аштрафавана на 770 тысяч рублёў, а Тацяна Севярынец, якая была сакратарам сходу, на 875 тысяч рублёў — з улікам таго, што яе прыцягваюць да адміністрацыйнай адказнасьці за падобнае правапарушэньне ўжо паўторна.

Суд над арганізатаркамі Народнага сходу распачаўся яшчэ 30 лістапада, на іх былі складзены пратаколы за парушэньне закону пра масавыя мерапрыемствы. Судзьдзя Кастрычніцкага раёну Іна Грабоўская, не зважаючы на тлумачэньні спадарыняў Севярынец і Яскевіч, што яны кіраваліся законам пра мясцовыя сходы, арганізацыя якіх не падпадае пад дзеяньне ніякага іншага закону, прызнала іх вінаватымі. Ірыну Яскевіч суд аштрафаваў на 22 базавыя велічыні, а Тацяну Севярынец — на 25 базавых велічынь.

Абедзьве актывісткі зьбіраюцца абскардзіць рашэньне спадарыні Грабоўскай у абласным судзе, бо зь ім нязгодныя. На думку Тацяны Севярынец, абвінавачая пастанова суду была гатовая загадзя, і час на два пасяджэньні быў проста змарнаваны.

Ірыну Яскевіч асабліва абурыла тое, што судзьдзя Іна Грабоўская пяць разоў на працягу працэсу адмовілася выклікаць у суд міліцыянтаў Кастрычніцкага РАУС, якія складалі пратаколы пра правапарушэньне. Бо гэтых супрацоўнікаў на імпрэзе не было, і чым яны кіраваліся, калі пісалі, што адбылася несанкцыянаваная імпрэза, так і засталося невядомым.

Дарэчы, тыя супрацоўнікі міліцыі, якіх судзьдзя пагадзілася выклікаць, аднагалосна пацьвердзілі, што 8 кастрычніка на вуліцы Хмяльніцкага праходзіў менавіта сход з усімі належнымі прыкметамі: выступалі мясцовыя жыхары, адбывалася галасаваньне па асобных пытаньнях, была прынятая рэзалюцыя сходу і гэтак далей.

Праз колькі часу ад пачатку пасяджэньня судзьдзя выдаліла з залі праваабаронцу Паўла Левінава, які выказаў меркаваньні, што суд сваімі пытаньнямі спрабуе заблытаць сьведак. Як вынікае з судовай пастановы, правапарушэньне з боку спадарыняў Севярынец і Яскевіч палягае ў тым, што яны правялі ня проста мясцовы, а Народны сход: як заявіла судзьдзя, правядзеньне менавіта народных сходаў заканадаўствам не рэглямэнтавана. Таму яна прысудзіла штрафы паводле артыкулу 23.34 — за правядзеньне несанкцыянаванай акцыі.




# ЗА «СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ» ВАРАНЕЦКАГА І САЛОХІНА ПАПЯРЭДЗІЛІ

Уладзіслава Варанецкага і Івана Салохіна затрымалі вечарам 11 сьнежня, калі яны спрабавалі вывесіць расьцяжку «Свабоду палітвязьням!» на мосьце імя Блахіна. Расьцяжка была дзевяць мэтраў даўжынёй, заўважная здалёк. Ноч хлопцы правялі ў ізалятары часовага ўтрыманьня.

Каля 10-й раніцы 12 сьнежня Варанецкі паведаміў праз тэлефон, што яго і Салохіна вязуць у суд Чыгуначага раёну Віцебску. Там заплянаваны разбор адміністрацыйнай справы. Хлопцаў вінавацяць у парушэнні заканадаўства пра масавыя мерапрыемствы.

Судзьдзя Алена Цыганкова прызнала Варанецкага і Салохіна вінаватымі паводле адміністрацыйнага артыкулу — нібыта яны правялі несанкцыянаваную вулічную акцыю. Паколькі ніводзін зь іх сёлета ня быў затрыманы за падобныя ўчынкі, судзьдзя вырашыла абмежавацца толькі папярэджаньнем.

«Мы толькі пасьпелі павесіць расьцяжку на парэнчах, нават не замацавалі яе належным чынам. Да нас пад'ехала машына, выскачылі людзі ў цывільным, загадалі ехаць зь імі ў Чыгуначны РАУС. Хто яны такія, нам не прадставіліся, паводзілі сябе з намі груба — у мяне гвалтам адабралі тэлефон, ударыўшы па твары. У пастарунку спачатку хацелі скласьці пратакол за несанкцыянаваную рэкляму. Але міліцыянты кудысьці патэлефанавалі, і пасьля ўжо сказалі, што мы парушылі заканадаўства аб правядзеньні масавых вулічных акцыяў», — заявіў Уладзіслаў Варанецкі.

УСХОДНІ СУСЕД

# ФІНАНСАВАЯ ПАДТРЫМКА РАСЕІ МОЖА ЗАМАРОЗІЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ЭКАНОМІКУ

ФІНАНСАВАЯ ПАДТРЫМКА З БОКУ КРАМЛЯ АДСОЎВАЕ РЫНКАВЫЯ РЭФОРМЫ Ў БЕЛАРУСІ І СТАВІЦЬ КРАІНУ Ў ДАЎГАВУЮ ЗАЛЕЖНАСЦЬ АД ВЯЛІКАЙ УСХОДНЯЙ СУСЕДКІ. ДА ТАКОЙ ВЫСНОВЫ ПРЫХОДЗЯЦЬ АНАЛІТЫКІ, КАМЕНТУЮЧЫ ЗАЯВЫ РАСЕЙСКАГА АМБАСАДАРА АЛЯКСАНДРА СУРЫКАВА АБ СЯМІ МІЛЬЯРДЫ ДАЛЯРАЎ, ЯКІЯ Ў БЛІЖЭЙШЫ ГОД АТРЫМАЕ БЕЛАРУСЬ ПА ДОБРАЙ ВОЛІ МАСКВЫ.

Пачатак ужо пакладзена - 1 снежня Мінск атрымаў 2,5 млрд. даляраў, пералічаных «Газпрамам» за куплю другой паловы акцый ААТ «Белтрансгаз». Згодна з заявах расейскага амбасадара на прэс-канферэнцыі ў Мінску 30 лістапада, да канца гэтага года Беларусь павінна атрымаць 1 млрд. даляраў крэдыту расейскага «Ашчадбанка» (фармальна грошы прызначаныя для ААТ «Беларуськалій») і 440 млн. даляраў другога траншу крэдыту Антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭС .

У 2012 годзе фінансавая падтрымка будзе складацца з 800 млн. даляраў трэцяга траншу крэдыту па лініі ЕўрАзЭС і прыкладна 0,5 млрд. даляраў першага транша экспартнага дзяржкрэдыту на будаўніцтва Астравецкай АЭС. Акрамя таго, каля 2 млрд. даляраў Беларусь зможа зэканоміць дзякуючы зніжэнню кошту на расейскі газ. Такім чынам, падагульніў Сурыкаў, агульны памер падтрымкі ў 2011-2012 гадах чакаецца на ўзроўні 7,3 млрд. даляраў. «Гэта добрая падтрымка, якая складае каля 25% ВУП Беларусі», - падкрэсліў пасол.

Варта адзначыць, што прыкладна столькі ж, парадку 7 млрд. даляраў, беларускія ўлады разлічвалі атрымаць ад Міжнароднага валютнага фонду, куды звярнуліся па дапамогу ў канцы мая бягучага года.

З улікам рэкамендацый экспертаў МВФ ўрад распрацавала беспрэцэдэнтную па сваёй рэфармісцкай сутнасці праграму развіцця эканомікі на 2012 год. Адобрыў бы яе кіраўнік дзяржавы - будучы год мог бы стаць сапраўды пераломным для беларускай эканомікі. Між тым да канца года фонд не плануе праводзіць перамовы па прадастаўленню чарговага крэдыту Беларусі, заявіла пастаянны прадстаўнік МВФ у Мінску Наталля Калядзіна. Аднак цуду не адбылося.

Праект макраэканамічнага прагнозу на 2012 год Аляксандр Лукашэнка забракаваў, абвінавацію міністраў у адарванасці ад патрэб народа і запатрабаваў выканання праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця, ухвалены год таму Усебеларускім народным сходам.

Тое, што перамоўны працэс з МВФ згорнуты на нявызначаны тэрмін, - дрэнны знак для беларускай эканомікі, лічыць былы кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. «Па-першае, МВФ дае крэдыты на вельмі выгадных умовах. Па-другое - такія крэдыты даюцца пад праграмы рэформаў, якія спрыяюць аздараўленню эканомікі », - адзначыў Багданкевіч у каментары для БелаПАН. І, што не менш важна, падкрэсліў эксперт, «крэдытнае супрацоўніцтва з МВФ дае інвестарам з цывілізаваных дзяржаў станоўчую інфармацыю». «Гэта своеасаблівая гарантыя таго, што ў краіне, якая атрымала крэдыт, сапраўды праводзяцца рэформы, намеціліся ўстойлівыя станоўчыя тэндэнцыі», - кажа Багданкевіч.

Фінансавая ж падтрымка з боку Расеі небяспечная тым, што, па вялікім рахунку, залежыць не ад эканамічнай палітыкі беларускіх уладаў, а ад інтарэсаў расейскага боку. Галоўнай умовай пры гэтым называлася прыватызацыя беларускіх дзяржактываў на суму 7,5 млрд. даляраў на працягу трох гадоў. Продаж прадпрыемстваў, тлумачылі ў Маскве, - адзін са спосабаў атрымаць сродкі для папаўнення аплатнага балансу. Улетку гэтага года тагачасны віцэ-прэм'ер і міністр фінансаў Расіі Аляксей Кудрын прыгразіў Беларусі тым, што ўмовы выдачы крэдыту ЕўрАзЭС могуць змяніцца, калі беларускі бок будзе працягваць эмісійных палітыку і практыкаваць іншыя антырынкавых меры.

«Расея наўрад ці зацікаўлена ў нейкім адмысловым поспеху структурных рэформаў у Беларусі. Расейцаў па вялікім рахунку і так усё задавальняе, яны выдатна ўмеюць працаваць у такіх палітыка-эканамічных умовах », - лічыць эканаміст Сяргей Чалы. А вось МВФ, дадаў ён, «не з'яўляецца суб'ектам ні палітыкі, ні эканомікі, а таксама не адстойвае геапалітычныя інтарэсы альбо інтарэсы якіх-то бізнэс-структур». Таму, мяркуе Чалы, «папракнуць у чым-небудзь МВФ нельга, у той час як у адносінах з Расіяй такога роду падазрэнні абавязкова прысутнічаюць».

У сваю чаргу, палітолаг Валерый Карбалевіч зазначае: «Расейская дапамогу адсоўвае на нявызначаны тэрмін рынкавыя рэформы ў Беларусі і умацоўвае цяперашнюю эканамічную мадэль. Да рэфармаванні падахвочвае вострая неабходнасць. Рэформы пачынаюцца тады, калі канчаюцца грошы. Атрымаўшы расейскую дапамогу, з рынкавымі пераўтварэннямі можна і пачакаць ».

Акрамя таго, атрымліваючы з Масквы мільярдныя даляравыя крэдыты, Беларусь, акрамя энергетычнай залежнасці ад Расіі, трапляе яшчэ і ў залежнасць пазыковую. Між тым парог эканамічнай бяспекі Беларусь ужо пераступіла. Па дадзеных Міністэрства фінансаў, на 1 лістапада знешні дзяржаўны доўг склаў 12,01 млрд. даляраў, павялічыўшыся з пачатку года на 24%. Валавы ж знешні доўг Беларусі (ён уключае ў сябе доўг органаў дзяржаўнага кіравання, грашова-крэдытнага рэгулявання, банкаў і іншых сектараў эканомікі.) ужо на 1 ліпеня гэтага года дасягнуў 33,1 млрд. даляраў.

**Ірына Леўшына, naviny.by**

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# ЯК ДЗЯРЖАВА ЭКАНОМІЦЬ НА ЗДАРОЎЕ І АДУКАЦЫІ БЕЛАРУСАЎ

У ПРАЦЭНТАХ ДА ВАЛАВОГА ЎНУТРАНАГА ПРАДУКТУ БЕЛАРУСЬ ТРАЦІЦЬ НА АДУКАЦЫЮ І АХОВУ ЗДАРОЎЯ МЕНШ РАЗВІТЫХ КРАІН З РЫНКАВАЙ ЭКАНОМІКАЙ. ДЫ І СЯРОД КРАІН СНД ПА ГЭТЫХ ПАКАЗЧЫКАХ ЗУСІМ НЕ НА ПЕРШЫМ МЕСЦЫ.

Дзе гатовыя марнавацца на адукаваных грамадзян

Па дадзеных даведніка Белстата «Беларусь і іншыя краіны», у 2009 годзе наша краіна выдаткавала з кансалідаванага бюджэту на адукацыю 4,9% ВУП. А ў 2005 годзе, напрыклад, доля выдаткаў у кансалідаваным бюджэце складала 6,2% ВУП, але затым пастаянна зніжалася. Белстат ў спецыяльнай зноска паказаў дадзеныя за 2010 год - выдаткі кансалідаванага бюджэту склалі ўжо 5,1% ВУП. Зрэшты, сакрэт павелічэння выдаткаў у мінулым годзе ўсім добра вядомы - неабходна было забяспечыць выбухны рост заработнай платы настаўнікаў перад выбарамі.

Але ні паказчык 2009 года, ні нават 2010-га, які адпавядае паказчыку за 2008 год для Беларусі, не з'яўляецца самым высокім сярод краін СНД. Беларусь у апошнія гады стала абыходзіць Малдова па ўзроўні выдаткаў на адукацыю (9,6% у 2009 годзе і 8,2% у 2008), а таксама Кіргізія (5,9% у 2008 годзе і 6,5% у 2007 годзе).

Што ж тычыцца астатніх краін свету (дадзеныя па іх прыводзяцца толькі за 2007 год), то для развітых краін характэрным з'яўляецца ўзровень бюджэтных расходаў на адукацыю, які перавышае 5% ВУП. Так, па 5,5% да ВУП расходуюць на адукацыю з кансалідаванага бюджэту Злучаныя Штаты і Вялікабрытанія. Пры гэтым значная колькасць найбуйнейшых і самых прэстыжных ВНУ ў гэтых краінах з'яўляюцца прыватнымі. Так што бюджэт калі і траціць на іх свае сродкі, то відавочна ў нязначнай колькасці. Да таго ж, вышэйшая адукацыя з'яўляецца фармальна платнай (ёсць, праўда, гранты, стыпендыі, крэдыты з растэрміноўкай на вялікі перыяд). Хутчэй за ўсё, асноўныя выдаткі ў гэтых краінах ідуць на сярэднюю адукацыю.

Францыя з фармальна бясплатнай вышэйшай адукацыяй траціць з бюджэту 5,6% ВУП. Германія менш - 4,5%. Самы высокі ўзровень бюджэтных выдаткаў на адукацыю сярод еўрапейскіх краін - у Даніі (7,8%). Ледзь менш - 7,4% - марнуе Ісландыя. Даволі высокі ўзровень бюджэтных расходаў на адукацыю ў Скандынаўскіх краінах - Нарвегія - 6,8%, Швецыя - 6,6%.

Каму патрэбен здаровы электарат

Але калі выдаткі беларускага бюджэту на адукацыю яшчэ як-то ўкладваюцца ў параметры іншых краін, то з выдаткамі на ахову здароўя справы ідуць горш. У 2009 годзе расходы на ахову здароўя ў Беларусі склалі 4,7% ВУП, зменшыўшыся з 5,9% у 2000 годзе. У 2009 годзе сярод краін СНД па гэтаму паказчыку мы былі трэцімі з канца і дзялілі гэтае месца з Арменіяй (таксама 4,7%) Ніжэй выдаткі на ахову здароўя былі ў Туркменістане (2,3%) і Казахстане (4,5%). Больш за ўсіх марнуюць зноў-такі Малдова - 11,9% ВУП, Украіна - 7%, Расія - 5,4%.

Узровень расходаў на ахову здароўя для многіх буйных краін еўрапейскага кантынента перавышае 11% ВУП. Да іх ставіцца Германія, Францыя, Аўстрыя, Швейцарыя, Данія, Бельгія, і нават Партугаліяй. Больш за 10% - Нідэрланды, Швецыя, Грэцыя.

Але ў сусветным маштабе іх абыходзяць Злучаныя Штаты. Тут у 2009 годзе выдаткавана на ахову здароўя 16,2% ВУП. На «сацыяльныя выплаты» у 2009 годзе Штаты патрацілі 43,9% выдаткаў кансалідаванага бюджэту. Беларускі бюджэт - 30% сваіх выдаткаў. І па дадзеным паказчыку абыходзіць іншыя краіны СНД. Праўда, у Малдове, Украіне і Расіі высокая ўдзельная вага «датацый» у бюджэтных выдатках, у адрозненне ад Беларусі.

Аднак і Беларусь, і ЗША сваімі сацыяльнымі марнаваннямі «б'юць» некаторыя еўрапейскія краіны - Германія на сацыяльныя выплаты «транжырыць» 55,9% бюджэтных расходаў, Люксембург - 51,1%, Аўстрыя - 49%.

**Ірына Арлова, naviny.by**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# НЕ БУДЗЕ ДЫЯЛОГУ— НЕ БУДЗЕ БЕЛАРУСІ

АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ МЯРКУЕ, ШТО НЕ САНКЦЫІ, А ДЫЯЛОГ У СВОЙ ЧАС СТАЎ ВЫРАШАЛЬНЫМ У ПЫТАННІ ВЫХАДУ З ТУРМАЎ ПАЛІТВЯЗНЯЎ.

У Варшаве прайшла традыцыйная канферэнцыя «Беларусь і беларусы сярод суседзяў: гістарычныя стэрэатыпы і палітычныя канструкты», што ладзіцца пры Інстытуце грамадзянскай прасторы і публічнай палітыкі Універсітэта імя Лазарскага. На ёй меў выступ лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

Палітык сканцэнтраваўся ў прамове на пытанні, хто выйграе Беларусь у будучыні? «Я веру, што мы выйграем. Мы вернемся туды, адкуль паходзім», — адзначыў Мілінкевіч, маючы на ўвазе Еўропу.

Па словах Мілінкевіча, нават тыя невялікія саступкі, на якія ішла ўлада падчас «лібералізацыі» адыгрывалі важную ролю на будучыні. Галоўнай памылкай Еўропы ён называе адсутнасць дарожнай карты ў адносінах ЕС і Беларусі. «Павінны былі быць канкрэтныя крокі з боку ўладаў, на якія мусіць адказваць Еўрасаюз. Лукашэнка ж нічога не рабіў, а Еўропа чакала. Я працаўнік таго, каб Лукашэнку давалі грошы. Гэтыя грошы пойдуць на рэжым. Дыялог павінен узнавіцца толькі пасля вызвалення палітвязняў. Калі хочаце, не будзе дыялогу — не будзе Беларусі», — мяркуе Мілінкевіч.

Палітык называе праект Еўразійскага саюза «мэтай жыцця Пуціна». «Берлінскі мур», што сёння існуе паміж Беларуссю і Еўропай, толькі на карысць Расіі. Я амаль упэўнены, што пасля абрання Пуціна прэзідэнтам Расія паспрабуе замяніць Лукашэнку на больш лаяльнага і прадказальнага чалавека, які будзе здаваць эканоміку і, не дай Бог, увядзе расійскі рубель».

Мілінкевіч лічыць, што ў 2008 якраз палітыка дыялогу, а не санкцый прывяла да вызвалення палітвязняў. «Дыялог вызваліў вязняў, а не амерыканскія санкцыі. Санкцыі штурхаюць нас да Расіі. Дыялог значна больш эфектыўны».

Была закранутая і тэма аб'яднання апазіцыі, якая нярэдка ставіцца на Захадзе. «Я за аб'яднанне. Але нават польская «Салідарнасці» было лягчэй, бо ўсе ад самых левых да самых правых былі за аддаленне Польшчы ад Расіі і набліжэнне да Еўропы. У нас жа нават сярод апазіцыі ёсць сілы, што выступаюць за інтэграцыю з Расіяй і добрасуседскія дачыненні з Еўропай. Я і мае прыхільнікі за інтэграцыю з Еўропай і добрасуседства з Расіяй».

**Зміцер Панкавец, "Наша Ніва".**

ПАРАЎНАЙЦЕ!

# БЕЛАРУСЬ И РОССИЮ РАЗДЕЛЯЕТ ПОЛИТИЧЕСКАЯ ПРОПАСТЬ

Многотысячная акция протеста против нечестных выборов прошла в Москве. Как сказал известный писатель Борис Акунин, такой Москву мы не видели с 1991 года. Десятки тысяч человек, потратив свой законный выходной, в холодную декабрьскую погоду вышли на улицы российской столицы, чтобы потребовать честных выборов. Милиционеры говорят, что протестующих было 25 тысяч, журналисты оценивают акцию в 50--60 тысяч человек, организаторы мероприятия говорят, что пришли почти сто тысяч… «Народная Воля» решила указать на пять главных отличий акций оппозиции в Москве и Минске.

**1.Акция в Москве была санкционированной.**

Несмотря на то что и Конституция Беларуси, и Конституция России гарантируют гражданам одно и то же право на свободу собраний и митингов, реализовать его в Беларуси практически невозможно. Потому что у нас введен разрешительный принцип проведения массовых акций, то есть власти должны каждое такое мероприятие разрешить. А они, как правило, этого не делают. Например, ни одна из заявок на проведение пикетов 10 декабря, в День прав человека (!), белорусскими властями не была удовлетворена.

**(Продолжение на стр. 4)**

# БЕЛАРУСЬ И РОССИЮ РАЗДЕЛЯЕТ ПОЛИТИЧЕСКАЯ ПРОПАСТЬ

**(Окончание. Начало на стр. 3)**

И это в День прав человека! Хотя Конституцию вроде бы никто не отменял и гарант Конституции не отказался исполнять свои главные обязанности по защите прав человека.

В России ситуация с акциями протеста принципиально иная. Для проведения акции протеста там надо просто уведомить власти о месте планируемого проведения акции и ее ожидаемой численности. Запретить акцию власти по закону не имеют права. Именно поэтому российская оппозиция может проводить согласованные с властями акции протеста. И в минувшую субботу она особо подчеркивала, что готова идти на выполнение всех требований власти, в том числе на перенос места проведения акции, чтобы не подставлять народ под дубинки ОМОНа.

**2.Принципиально отличается личное отношение белорусского и российских руководителей к праву граждан на проведение акций протеста.**

Тех, кто выходит на акции протеста, Александр Лукашенко, как правило, называет «экстремистами», «врагами народа», «пятой колонной» и приказывает пресекать их акции очень жестко. Так, он признался, что лично руководил беспрецедентно жестоким разгоном акции протеста 19 декабря прошлого года.

В ноябре уже этого года на Гожском полигоне Лукашенко дал прямое указание: «*Министерству внутренних дел -- пресекать деятельность экстремистских лиц. Министр внутренних дел должен забыть: прилично, неприлично, как о нас подумают. Необходимо жестко реагировать на любые действия. Главное -- обеспечить порядок в стране*».

Принципиально иная позиция у российских руководителей. После многотысячной акции на Болотной площади президент РФ Дмитрий Медведев написал в своем блоге: «*По Конституции граждане России имеют свободу слова и свободу собраний. Люди имеют право высказывать свою позицию, что они вчера и сделали. Хорошо, что все прошло в рамках закона. Я не согласен ни с лозунгами, ни с заявлениями, прозвучавшими на митингах. Тем не менее мною было дано поручение проверить все сообщения с избирательных участков, касающиеся соблюдения законодательства о выборах*».

**3.Белорусская милиция и российская полиция продемонстрировали принципиальное различие понимания своей роли в обществе.**

Белорусская милиция, как показывает опыт, присутствует на акциях оппозиции для устрашения, запугивания, жестокого подавления и разгона. Таким образом, милиция противопоставлена той части общества, которая не поддерживает власть.

Руководство российской полиции на самой масштабной акции оппозиции последних 20 лет, наоборот, демонстрировало, что люди в форме не противостоят народу, какой бы политической точки зрения он ни придерживался. Милиционеры, которые работали на акции, в подавляющем большинстве были без специальной экипировки, бойцов спецподразделений заставили поднять защитные щитки своих шлемов, открыть лица, показать глаза. Как свидетельствует главный редактор радиостанции «Эхо Москвы» Алексей Венедиктов, который одновременно является членом общественного совета при ГУВД Москвы, это было сделано по специальному приказу руководителя московской полиции с той целью, чтобы не накалять ситуацию, не разжигать вражду между протестующими и людьми в погонах.

Множество фото- и видеокадров свидетельствует, что у многих полицейских в петлицах были белые цветы или ленточки -- символы мирного протеста, которыми с ними делились участники акции несогласных. В интернете размещены сотни, если не тысячи, свидетельств, что полиция вела себя очень корректно, очень дружелюбно, что не дикими, полными ненависти глазами стражи порядка смотрели на пришедших протестовать, а общались с ними спокойно и вежливо. Как результат -- ни одного задержанного в ходе или после многотысячной акции. Ни одного серьезного происшествия. Всем своим поведением российская полиция подчеркивала: «Мы не цепные псы». Поведение их белорусских коллег в этой связи не поддается ни логике, ни объяснению.

**4.В Беларуси и России принципиально разная ситуация со средствами массовой информации.**

Об акциях протеста, планах оппозиции, претензиях к власти и т.п. в России рассказывают многие СМИ. Да, это не ведущие телеканалы. И тем не менее это радиостанции «Эхо Москвы», «Коммерсант FM» и другие, которые вещают в эфире абсолютно легально. Это телеканалы «Рен-ТВ», «Дождь», RTVi, на которых широко представлена альтернативная точка зрения. Это по-прежнему множество газет и журналов. В Беларуси ничего подобного давно нет.

К сожалению, приходится говорить и о том, что не только профессиональные, но и человеческие качества «лиц каналов» в Беларуси и России сильно отличаются. В день проведения акции протеста стало известно, что без сюжетов с Болотной площади отказался выйти в эфир ведущий НТВ Алексей Пиворов. Уже известно, что руководители Первого канала и РТР все дни после выборов активно убеждали Кремль в необходимости давать нейтральные сюжеты об акциях протеста и в том, что в противном случае можно спровоцировать в обществе еще большую волну ненависти и недовольства. Надо понимать, они все-таки смогли убедить Владимира Путина в правоте своей точки зрения: сюжеты российских телеканалов об акции оппозиции были спокойными, более-менее объективными и нейтральными.

Кто в Беларуси сможет убедить Александра Лукашенко в том, что нельзя разжигать вражду в одном народе на том лишь основании, что протестуют люди, которые придерживаются иных политических взглядов? Кто из белорусских телеведущих способен предъявить ультиматум и потребовать объективного освещения новостей в эфире, даже если новости связаны с оппозицией?

**5.Мысль, не закатанная в асфальт.**

На московской акции протеста присутствовали и выступали не только оппозиционные политики, но и люди, наделенные официальными полномочиями. Например, полковник ФСБ Геннадий Гудков, депутат Госдумы от партии «Справедливая Россия», призвал всех коллег в знак протеста сдать депутатские мандаты. Уполномоченный по правам человека при президенте России, демократ с большой биографией Владимир Лукин наблюдал, чтобы, с одной стороны, полиция действовала строго в рамках своих полномочий, а с другой -- чтобы организаторы акции четко выполняли требования полиции и не провоцировали беспорядки. Это говорит о том, что при всех известных издержках в России все-таки не задушено гражданское общество, не задушены альтернативные точки зрения до той степени, до какой это сделано в Беларуси. **Российское руководство в отличие от белорусского все-таки понимает, что в обществе должно быть место для дискуссии, и создает для этого различные легальные структуры.** Президент России приближает к себе и дает возможность работать людям, которые могут высказывать точки зрения, отличные от официальных, доносить до первых лиц страны альтернативную информацию. Видимо, в руководстве России понимают, что путь государственного беспредела -- это прямой путь к революции. А акции протеста, предоставление гражданам возможности реализовать свои законные права, в том числе требовать и добиваться честных выборов, -- это, наоборот, уход от конфликта, конфронтации и крови.

*О чем, интересно, думали белорусские вожди, глядя на происходящее в Москве? Видимо, о том, какие слабаки Медведев и Путин, как они не смогли отдать команду спецназу действовать решительно и жестко, невзирая на приличия…*

**Светлана Калинкина, "Народная воля".**

**НАША САЛІДАРНАСЦЬ**

# ЖЫЦЦЁ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

## У ЦКАВАННІ АНДРЭЯ САННІКАВА І ЗМІЦЕРА ДАШКЕВІЧА ЎЛАДЫ ПЕРАЙШЛІ ЎСЕ МАГЧЫМЫЯ МАРАЛЬНЫЯ МЕЖЫ

**Праваабарончы цэнтр "Вясна"**

**Заява, Мінск 13.12.2011 г.**

11 снежня 2011 г. у нядзельным выпуску праграмы "В центре внимания" на тэлеканала "Беларусь-1" быў прадэманстраваны правакацыйны сюжэт пра вязняў сумлення – былога кандыдата Андрэя Саннікава і лідэра моладзевай арганізацыі "Малады Фронт" Зміцера Дашкевіча.

Праваабарончы цэнтр "Вясна" лічыць, што дэманстрацыя падобнага кшталту відэаматэрыялаў на дзяржаўным тэлеканале ў чарговы раз падкрэсліла палітычную матывацыю іх пераследу.

Прадэманстраваны сюжэт з'яўляецца адным са звенняў ланцуга правакацыяў, арганізаваных спецслужбамі Беларусі ў дачыненні да А. Саннікава і З. Дашкевіча, галоўнай задачай якіх з'яўляецца аказанне маральнага ціску, дыскрэдытацыя, стварэнне рэальных пагрозаў для іх жыцця і здароўя падчас знаходжання ў месцах пазбаўлення волі.

Дадзены сюжэт сведчыць, што ў арганізаванай кампаніі па цкаванні А.Саннікава, З. Дашкевіча, членаў іх сем'яў улады Беларусі гатовы перайсці ўсе магчымыя маральныя межы. Дэманстрацыя падобнага відэаматэрыялу сведчыць аб поўнай прафесійнай і чалавечай дэградацыі кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі, непасрэднага кіраўніка тэлеканалу "Беларусь-1" і асобаў, якія рыхтавалі сюжэт да эфіру.

Беларускія улады, МУС, адміністрацыя папраўчых установаў, у якіх знаходзяцца А. Саннікаў і З. Дашкевіч, нясуць непасрэдную і поўную адказнасць за далейшы лёс, жыццё і здароўе асуджаных вязняў. Праваабарончы цэнтр "Вясна" ў чарговы раз заклікае улады Беларусі:

- спыніць усялякія правакацыйныя дзеянні ў дачыненні да А. Саннікава і З. Дашкевіча;
- неакладна дапусціць да асуджаных адвакатаў і блізкіх сваякоў;
- неадкладна і безумоўна вызваліць усіх вязняў сумлення і палітычных зняволеных, якія дагэтуль знаходзяцца ў турмах Беларусі.

**http://spring96.org/be/news/48220**

**Ад рэдакцыі:** Напярэдадні Калядаў і Новага году абвешчана акцыя салідарнасці з палітвязнямі Беларусі. Ініцыятары заклікаюць неабыякавых грамадзян накіроўваць паштоўкі да палітвязняў з віншаваннямі. Давайце падтрымае грамадзян, якія змагаюцца за нашу і вашу свабоду! Накіруем паштоўкі па наступных адрасах. Рэдакцыя гатова прадастаўляць слова неабыякавым грамадзянам аб удзеле ў акцыі.

**Чытач! Напішы віншаванне палітвязням**

**Алесь Бяляцкі** -- 222160, Менская вобл., г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А, турма № 8

**АСУДЖАНЫЯ ЗА ПАДЗЕІ 19 СЬНЕЖНЯ**

Адбываюць пакаранне:

**Андрэй Саннікаў** -- 211300, Віцебская вобл., Віцебскі р-н, п.Віцьба, папраўчая калонія №3

**Зміцер Бандарэнка** -- 213105 г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна

папраўчая калонія № 15

**Эдуард Лобаў** -- 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / с 20

папраўчая калонія № 22

**Мікола Статкевіч** -- 213004 Магілёўская вобл., г. Шклоў выпраўленчая калонія № 17

**Зміцер Дашкевіч** -- 211791, Віцебская вобл., г.Глыбокае, вул. Савецкая, 205

папраўчая калонія № 13

**Павал Севярынец** -- 225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в. Куплін, ПУАТ-7

**АСУДЖАНЫЯ ПА «СПРАВЕ АНАРХІСТАЎ»**

**Мікалай Дзядок** -- 213105 г. Магілёў, Слаўгарадская шаша, п/а Вейна

папраўчая калонія № 15

**Аляксандр Францкевіч**-- 225295 Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, «Воўчыя норы», а / я 20

папраўчая калонія № 22

**Ігар Аліневіч** -- 211440 Віцебская вобл., г. Наваполацк, вул. Тэхнічная, 8

папраўчая калонія № 10

**АСУДЖАНЫЯ ЗА НАПАД НА БАБРУЙСКАЕ КДБ:**

**Яўген Васьковіч** -- 212011 г. Магілёў, вул.Крупскай, 99а турма № 4

**Арцём Пракапенка** -- 213004, Магілёўская вобл., г.Шклоў, ПК-17, атрад №15

**Павал Сырамолатаў** -- 213030, г. Магілёў, Слаўгарадзкая шаша, 3 км, ПК №19

**ТАКСАМА**

**Мікалай Аўтуховіч** -- 225293, Брэсцкая вобласць, г. Івацэвічы-3, ПК-5, атрад 13.

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, маб. +375299410197

**Падпісана да друку 16.12.2011 у 19.20.** Наклад: 290 асобнікаў.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца з дапамогай аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.